**СОНЦА:**
Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 4.43, 21.43, 17.00;
Віцебск — 4.25, 21.41, 17.16;
Магілёў — 4.33, 21.32, 16.59;
Гомель — 4.40, 21.20, 16.40;
Гродна — 5.01, 21.56, 16.55;
Брэст — 5.10, 21.48, 16.38.
**МЕСЯЦ:**
Маладзік 30 чэрвеня.
**ІМЯНІНЫ:**
Юльяна, Цярэнція, Юлія; Тодара, Інацэнта.

# ЗВЯЗДА

4 ЛІПЕНЯ 1992 г.
Субота, № 133 (21911)

• выдаецца са жніўня 1917 г. • БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1 рубель

## РОЗГАЛАС

### СУСТРЭЧА С. ШУШКЕВІЧА З АКТЫВІСТАМІ БЗВ

**Адбылася сустрэча Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча з актывістамі патрыятычнага руху — Беларускага згуртавання вайскоўцаў. На сустрэчы абмяркоўваўся ход вайсковай рэформы і пытанні патрыятычнага выхавання ў грамадстве.**

Станіслаў Шушкевіч перакананы ў неабходнасці прывесці войска да прысягі Рэспубліцы Беларусь. Але адзначыў, што працэс гэты павінен быць падрыхтаваным.

Кіраўнік парламента падкрэсліў, што рэарганізацыя войска ў Беларусі праводзіцца з павагай да ваеннаслужачых і іх гонару, без знявагі і пагарды да кожнага асобнага вайскоўца.

Станіслаў Шушкевіч пагадзіўся з выказанымі падыходамі да патрыятычнага выхавання ў войску і грамадстве і зазначыў неабходнасць папярэдняй прапрацоўкі прапаноў Беларускага згуртавання вайскоўцаў у адпаведных камісіях Вярхоўнага Савета Беларусі. Выказана падтрымка ініцыятыўнасці Беларускага згуртавання вайскоўцаў.

Такое паведамленне распаўсюдзіў прэс-цэнтр Беларускага згуртавання вайскоўцаў.

(БЕЛТА).

### ДАР, АЛЕ НЕ ДАРМА

Дакументы аб стварэнні беларуска-італьянскага партнёрскага фонду падпісалі першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Міхаіл Мясніковіч і пасол Італьянскай Рэспублікі ў Беларусі Джан Лука Бертынета. Гэты фонд будзе фінансаваць праграмы па ахове здароўя і асабліва тыя, якія датычаць чарнобыльцаў.

У якасці першага жэста італьянцы прапанавалі жыхарам Беларусі тысячу тон лімонаў.

— Прааналізаваўшы вопыт размеркавання гуманітарнай дапамогі ў краінах СНД, мы з беларускімі калегамі прыйшлі да вываду, што бясплатнае размеркаванне прадуктаў дае нязначны і кароткі эфект,— сказаў выступаючы перад журналістамі, пан Бертынета. — Больш мэтазгодна, на нашу думку, рэалізоўваць іх праз гандлёвую сетку, а вырučаныя грошы ўкладваць у аздараўленчыя праграмы.

**Валянціна МЕНШЫКАВА,**
**кар. БЕЛТА.**

### Купала ізноў з намі на пуцявіне Адраджэння

**Даўно не было такога шматлюддзя ў купалаўскім тэатры, як 2 ліпеня. Паўнюткая — ад партэру да балконаў і праходаў — зала засведчыла: мы не палі духам, не здаліся бязвер'ю, мы прыйшлі зверыць сябе па Купалу.**

Усе, хто ўзяў слова на юбілейным вечары, прысвечаным 110-м угодкам з дня нараджэння Песняра, — паэты В. Зуёнак, Н. Гілевіч, М. Лужанін, А. Лойка, С. Законнікаў, міністры Я. Вайтовіч, П. Краўчанка — гаварылі пра Купалу як пра зорку першай велічыні на нацыянальным небасхіле. Яго імя, падкрэсліў Н. Гілевіч, стала сімвалам нацыі.

Гэта не затушоўвае для нас трагічны чалавечы лёс Купалы. Наадварот: час дае нам магчымасць уведаць яго жыццё, яго слова як жыціе мучаніка і прарока, прыняць у душу выпакутаваную ім святыню — ідэю Бацькаўшчыны. Купалаўскія дні — ўдзячная для гэтага нагода —працягваюцца. Сёння Вязынка чакае ўсіх нас на традыцыйнае свята паэзіі.

**Алена ЦІХАНОВІЧ.**

### ДЫПЛАМАТЫЧНЫ КУР'ЕР

### Беларусь і Румынія: добрыя прадпасылкі для супрацоўніцтва

**Румынскі прадстаўнік Нікалае Стыня ўручыў ноту аб назначэнні яго часовым паверaным у справах Румыніі ў Беларусі міністру замежных спраў рэспублікі Пятру Краўчанку.**

У ходзе праведзенай гутаркі абодва бакі згадзіліся, што ёсць добрыя прадпасылкі для развіцця супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Румыніяй. Падкрэслівалася вялікае значэнне для паглыблення ўзаемных сувязей эканамічнага пагаднення, падпісанага раней.

Нікалае Стыня адзначыў, што ён пачаў выкананне сваіх абавязкаў у якасці часовага паверaнага ў адказны момант — у перыяд непасрэднай падрыхтоўкі афіцыяльнага візіту прэзідэнта Румыніі Іона Іліеску ў Беларусь. Гэта будзе першы афіцыяльны візіт кіраўніка Румынскай дзяржавы ў краіны СНД.

Кіраўнік беларускага знешнепалітычнага ведамства выказаў упэўненасць у тым, што знаходжанне часовага паверaнага Румыніі ў Мінску, які з'яўляецца каардынацыйным цэнтрам СНД, дапаможа дыпламату глыбей зразумець праблемы Садружнасці і аб'ектыўна іх ацэньваць.

(БЕЛТА).

### ГЭТА СЛОВА «ВАЛЮТА»— УСЁ САЛАДЗЕЙШАЕ І САЛАДЗЕЙШАЕ

**Усе банкі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь з 1 ліпеня выконваюць аперацыі па абмену разліковых білетаў Рэспублікі Беларусь на расійскія рублі.**

У выпадку вострай неабходнасці пры выездзе жыхароў Беларусі ў дзяржавы рублёвай зоны адбываецца абмен разліковых білетаў Нацыянальнага банка на рублі ў суадносінах адзін да аднаго ў рублёвым эквіваленце (інакш кажучы, за аднаго «зайчыка» вы атрымаеце дзесяць «савецкіх» рублёў) з утрыманнем камісійнага збору ў размеры да аднаго працэнта. Абмен сумы, якая перавышае 5 тысяч рублёў, робіцца камерцыйнымі банкамі па ўзгадненню з галоўнымі ўпраўленнямі Нацыянальнага банка.

**Святлана КУЛІКОВА,**
**БелаПАН.**



## У ПАМЯЦІ НАВЕЧНА

3 ліпеня — дзень вызвалення Мінска — адзначаецца ў Беларусі як свята вызвалення рэспублікі ад фашысцкіх захопнікаў. Кожны чацвёрты яе жыхар загінуў у Вялікай Айчыннай вайне. Аддаючы даніну памяці загінуўшым у баях за незалежнасць Радзімы на фронце, у партызанскім атрадзе, падполлі, канцлагерах, жыхары Беларусі адзначылі ўрачыстую дату 48-ы раз...

...Мінск, Плошча Перамогі, дзесяць гадзін раніцы. Пад гукі фанфар ваеннага аркестра да абеліска накіроўваюцца кіраўнікі Вярхоўнага Савета, урада рэспублікі, Беларускай царквы, Федэрацыі прафсаюзаў, зводныя калоны ветэранаў, прадстаўнікоў працоўных раёнаў сталіцы... Пачынаецца святочная цырымонія ўскладання вянкоў.

Змаўкаюць гукі аркестра, стукае ў сэрца жалобны адлік метранома — настае мінута маўчання. Слёзы на вачах ветэранаў, сум на тварах удзячных нашчадкаў. Урачыстым маршам праходзіць ганаровая варта воінаў. На мармур ля Вечнага агню кладуцца букеты кветак ад былых малалетніх вязняў канцлагераў, апускаецца на калені ветэран, спяшаецца да яго дзяўчынка з гваздзікамі: «Не плач, дзеда»... Ніколі не прывыкнуць да звычайнага рытуалу. Навечна застанецца ў памяці боль нязменных страт.

У гэты ж дзень вянкі і кветкі былі ўскладзены да абеліска «Мінск — город герой», на мемарыяльным комплексе «Хатынь», Кургане Славы, да брацкіх магіл і помнікаў па ўсёй рэспубліцы.

(БЕЛТА).

### Прафсаюзны абед— два разы ў тыдзень

Бясплатныя абеды для трохсот самых малазабяспечаных пенсіянераў арганізаваў па выхадных днях Магілёўскі абком прафсаюза работнікаў кааператываў. У суботу і нядзелю малазабяспечаныя ветэраны працы могуць паабедаць у пэўных сталовых або атаварыць талоны на харчаванне прадуктамі і прыгатаваць іх дома. З фонду сацыяльнага страхавання на гэту дабрачынную акцыю выдзелена 150 тысяч рублёў, каб забяспечыць пенсіянераў нядзельнымі абедамі на працягу года.

Дапамогу ў восемдзесят тысяч рублёў атрымалі ад абласнога прафсаюза каапработнікаў і студэнты Магілёўскага хіміка-тэхналагічнага тэхнікума. У перспектыве — нядзельныя дабрачынныя абеды для пенсіянераў Бабруйска, Асіповіч, іншых гарадоў і раённых цэнтраў Магілёўскай вобласці.

**М. НАЗАРОВІЧ,**
**кар. БЕЛТА.**

Мінск, 3 ліпеня. Плошча Перамогі. Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.

## «Маўчаць больш няма сіл»

**ТАК ПАЧЫНАЕЦЦА ЛЕДЗЬ НЕ КОЖНАЕ З АМАЛЬ 100 ПІСЬМАЎ, ЯКІЯ ШТОДНЯ ПРЫХОДЗЯЦЬ У АДРАС СТАНІСЛАВА ШУШКЕВІЧА. КОЖНЫ СПАДЗЯЕЦЦА, ШТО ЯГО ПІСЬМО БУДЗЕ АБАВЯЗКОВА ПРАЧЫТАНА САМІМ СТАРШЫНЁЙ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА.**

Вядома ж, аднаму чалавеку гэта проста не пад сілу. Тым больш, што паток пісьмаў, як і хадакоў, няўхільна расце. Цяперашні кіраўнік беларускага парламента атрымлівае пісьмаў у тры разы больш, чым М. Дземянцей, і ў чатыры — чым Г. Таразевіч. Усяго на імя С. Шушкевіча ў маі гэтага года прыйшло больш за 1,5 тысячы пісьмаў. Не трэба думаць, што да С. Шушкевіча не даходзяць думкі і спадзяванні народа, што апарат усе пасланні ўсяляк рэтушуе і пад капірку дае казённыя адпіскі. Наконт гэтага патрабаванні даволі жорсткія. Шушкевіч асабіста распарадзіўся: кожнае пісьмо старанна прапрацоўваць, яго аўтар павінен атрымаць змястоўны адказ. І, зразумела, Старшыня ВС асабіста чытае падрыхтаваныя штотыднёвыя выбаркі са свежай пошты.

Дык пра што часцей за ўсё расказваюць у пісьмах кіраўніку рэспублікі?

Апусцім тыя з іх, дзе просяць выдзеліць зямельны ўчастак або павялічыць нормы продажу цукру ў магазінах.

Ледзь не кожнае другое пісьмо ў адрас Шушкевіча ўтрымлівае нараканні на развал Саюза ССР. Думка адназначная. **«Змова трох — нечаканая і жахлівая, нездарма ўсё адбывалася ўначы, у лесе. Навошта вы ўкралі ў нас Радзіму?»** — пытаецца Краўчанка з Кішынёва. **«Няўжо не зразумела, што СНД — гэта нязначныя кавалачкі, якія ніхто не будзе прымаць усур'ёз?»** І тут жа патрабаванне: праявіце, маўляў, Станіслаў Станіслававіч, мудрую ініцыятыву, збярыцеся зноў у пушчы і аднавіце адзінства Айчыны.

Іншыя грамадзяне ў асобе Фёдарава з Харкава патрабуюць прадоўжыць пачатае ў Белавежскай пушчы, бо гісторыя, на іх думку, прадаставіла беларусам шанц стаць, нарэшце, свабоднымі. **«Упусціце яго — так і застанецеся пад ботам 1/6 часткі зямнога шара»,** — сцвярджаюць яны.

Часта ў пісьмах гучаць настальгічныя ноткі наконт **«незаконнага разгону кампартыі».**

У процівагу ім прыходзяць пісьмы, у якіх Шушкевіча заклікаюць **«быць пільным, бо верныя ленінцы зноў выходзяць з акопаў».**

Штодзённа — пісьмы ў падтрымку ці супраць правядзення ўсебеларускага рэферэндуму. С. Шушкевіча папракаюць у нерашучасці назваць канкрэтных **«лідэраў-правакатараў», бо іх трэба выводзіць на чыстую ваду, гэтых бадзяг»** (маюцца на ўвазе ініцыятары ўсенароднага галасавання).

Тыя, хто выказваецца «за» адстаўку Вярхоўнага Савета — а такіх пісьмаў прыходзіць крыху больш — з болем ускліваюць: **«Няма больш сіл глядзець, што адбываецца ў парламенце. Да якога часу камуністычная большасць будзе прымаць законы, выгадныя для яе!»**

Цэлы паток пісьмаў адносна зямлі і прыватызацыі. І тут думкі розныя. Адны з зайздроснай упартасцю пратэстуюць супраць развалу **«саўгасна-калгаснага ладу»**, другія абураюцца тым, што **«саўгасная зямля зарастае пустазеллем, а камуністы ходзяць і пасміхаюцца».** Яны раяць Старшыні **«ствараць трывалую базу для фермерства, бо досыць быць калгаснікам жабракамі на сваёй зямлі».** Сустракаюцца і пісьмы, дзе патрабуюць **«прымусіць гараджан вярнуцца ў вёску, раздаць бясплатна зямлю».** Сустракаюцца і заклікі **«адправіць усіх дармаедаў у вёску, як гэта ў свой час зрабілі ў Кітаі».**

Шмат пасланняў з патрабаваннямі абараніць ад зладзеяў, спекулянтаў і разбою. Людзі разважаюць пра мэтазгоднасць гуманных адносін да злачынцаў.

Беларускаму кіраўніку пішуць не толькі жыхары Беларусі, але і з «гарачых кропак» — Прыднястроўя, Закаўказзя... Яны просяць садзейнічаць спыненню братазабойчых войнаў, пагаварыць наконт гэтага з кіраўнікамі «неспакойных» дзяржаў.

**Падрыхтавала**
**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ.**

### Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб прысваенні дыпламатычных рангаў МАЗАЙ Н. М., МАРДОВІЧУ А. А., БУБЕНУ А. М. і ВАСІЛЬЕВУ А. У.**

1. Прысвоіць дыпламатычны ранг Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасланніка першага класа:

Мазай Ніне Мікалаеўне — Пастаяннаму прадстаўніку Рэспублікі Беларусь пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры (ЮНЕСКА);

Мардовічу Анатолю Аляксандравічу — Пастаяннаму прадстаўніку Рэспублікі Беларусь пры Аддзяленні ААН і іншых міжнародных арганізацыях у Жэневе.

2. Прысвоіць дыпламатычны ранг Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасланніка другога класа:

Бубену Аляксандру Мікалаевічу — Пастаяннаму прадстаўніку Рэспублікі Беларусь пры міжнародных арганізацыях у Вене;

Васільеву Аляксандру Уладзіміравічу — намесніку Пастаяннага прадстаўніка Рэспублікі Беларусь пры ААН.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

19 чэрвеня 1992 г. г. Мінск.

### Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб сістэме атэстацыі навуковых і навукова-педагагічных кадраў у Рэспубліцы Беларусь**

Заслухаўшы інфармацыю старшыні Камісіі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Н. С. Гілевіча аб становішчы ў сістэме атэстацыі навуковых і навукова-педагагічных кадраў у Рэспубліцы Беларусь, Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 верасня 1992 г. распрацаваць і прадставіць на разгляд Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь праект Закона Рэспублікі Беларусь «Аб навуковых ступенях і навукова - педагагічных званнях у Рэспубліцы Беларусь».

2. Да прыняцця гэтага Закона карыстацца існуючымі палажэннямі.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

19 чэрвеня 1992 г. г. Мінск.

## РАДЫЁФАКТ

У Літве рэзка ўзрастаюць тарыфы на паслугі і цэны. Абанементная плата, напрыклад, за кватэрны тэлефон у Вільнюсе павялічана амаль напалавіну і складае 70 рублёў у месяц. З 7 ліпеня ў сярэднім на 70 працэнтаў павышаюцца цэны на асноўныя гатункі хлеба. Яшчэ больш падаражаюць мука, крупы, макароны.

***

**У сібірскім горадзе Чыце пачаты выпуск расійска-кітайскага легкавога аўтамабіля. Машына, якая атрымала назву «Сунгары», выклікала вялікую цікавасць у фермераў, уладальнікаў садовых участкаў, магазінаў, кафэ і рэстаранаў. Яе кабіна разлічана на чатыры чалавекі, а невялікая бартавая платформа прызначана для перавозкі дробных партый грузаў.**

***

Караблі марскіх флатаў Садружнасці Незалежных Дзяржаў і ЗША правядуць невялікае сумеснае вучэнне ў Баранцавым моры. Гэта робіцца з мэтай адпрацоўкі перадачы і прыёму інфармацыі аб змяненні курсу і скорасці пры сустрэчах баявых караблёў двух флатоў у Сусветным акіяне.

***

**У 1986 годзе, калі ішлі выкіды з чарнобыльскага рэактара, разам з радыенуклідамі ў паветра выляталі і гарачыя часцінкі, якія з'яўляюцца своеасаблівымі згусткамі радыеактыўных элементаў. Можна сказаць, што гэта мікраскапічныя кавалачкі ядзернага паліва. Лічыцца, што іх знаходзілі ў лёгкіх ліквідатараў і жыхароў зоны. Каб выявіць, так гэта ці не, у Гомелі пачала працаваць спецыяльная група вучоных з Масквы. Як сцвярджае кіраўнік групы загадчык лабараторыі Інстытута біяфізікі Міністэрства аховы здароўя Расіі Пётр Лосеў, з 20-і разгледжаных выпадкаў ні ў адным гарачых часцінак не знойдзена. Але гэта не дае падставы для самазаспакаення. Таму доследныя работы, якія, дарэчы, праводзяцца па заданню Дзяржкамчарнобыля Беларусі і, безумоўна, маюць не толькі навуковае значэнне, будуць працягвацца.**

### ПІВА СВЕЖАГА РАЗЛІВУ

**БЯРОЗА. Калгас-аграфірма «Малеч», што ў Бярозаўскім раёне, у хуткім часе стане, відаць, багатай. Таму што кіраўніцтва калгаса па-сапраўднаму навучылася зарабляць грошы.**

У пачатку года тут адкрыўся цэх па перапрацоўцы бульбы. Цяпер ён выпускае бульбяныя гранулы, зручныя для прыгатавання пюрэ.

А зусім нядаўна побач з'явіўся цэх па варцы піва. І першую партыю малецкага напітку прадэгуставалі.

Абсталяванне для варкі піва прыйшло з прадпрыемстваў, якія ў выніку канверсіі перайшлі на выраб «мірных» тавараў, а асноўны яго кампанент — солад — па рыначных цэнах закупілі на Украіне.

### ЦЯЖКІ ШЛЯХ З ЗАПОЮ. І ДАРАГІ

Гэтымі днямі ў 32-м наркалагічным аддзяленні Рэспубліканскай псіхіятрычнай бальніцы («Навінкі») адкрыта першая ў Беларусі камерцыйная палата. Звычайны курс зняцця пацыента з «белага каня» і наступнае лячэнне працягваецца 3—4 тыдні. Працэс гэта зацяжны, але бясплатны. У камерцыйнай жа палаце пацыенту дапамагаюць выйсці з запою за тры—пяць дзён. Хутка — але за грошы. Кошт койка-месца ў суткі — 250 рублёў.

### ВЫШЭЙШАЯ ПЛАТНАЯ АДУКАЦЫЯ: «МАЗГІ» СУПРАЦЬ ГРОШАЙ

**ГРОДНА. Сіндром платнай вышэйшай адукацыі захліснуў мясцовы універсітэт. Прычым ідзе ён адначасова па двух напрамках.**

Згодна з першым, за грошы магчыма атрымаць дадатковую адукацыю. Абыдзецца яна прыкладна ў 8 тысяч рублёў у год, але залічэнне адбываецца без экзаменаў, а форма навучання — толькі завочная. Другі напрамак адкрываецца перад абітурыентам тады, калі апошні вытрымлівае экзамены, але не праходзіць па конкурсу. Тады «пацярпеўшага» мае права накіраваць на вучобу ў ГрДУ якое-небудзь прадпрыемства (у тым ліку і недзяржаўнае), заключыўшы з універсітэтам дагавор і аплаціўшы вучобу ў размеры каля 20 тысяч у год па сённяшніх цэнах. Такі студэнт залічваецца звыш плана на любы факультэт.

Дарэчы, падобныя «прыбытковыя» залічэнні практыкуюць і іншыя вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі, аб чым «Звязда» паведамляла ўжо. З аднаго боку, такія дзеянні зразумелыя — «ачагі навукі» ідуць на любыя меры дзеля таго, каб папраавіць сваё фінансавае становішча. Аднак мала хто сур'ёзна задумваецца аб адваротным боку падобнага «медаля», аб тым, што цяпер галоўным крытэрыем пры паступленні ў ВНУ ўсё часцей становяцца не мазгі, а тлусты кашалёк. І яшчэ аб тым, што са сцен ВНУ будуць выпускацца адпаведныя «дыпламаваныя» спецыялісты, якія замест ведання беларускай мовы, фізікі ці геаграфіі будуць ведаць толькі курс валют, а замест таго, каб упэўнена трымаць у руцэ скальпель, палічаць за лепшае ўпэўнена вадзіць уласны «Мерседэс».

**Станіслаў СУЛКОЎСКІ.**

